# АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАДТРЫМЦЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

***Канцэпцыя праекта Закона Рэспублікі Беларусь, якая прапануецца Грамадскім аб'яднаннем "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3-5.)*

Органы мясцовага кіравання і самакіравання ажыццяўляюць падтрымку беларускай мовы падчас сваёй штодзённай дзейнасці, а таксама шляхам рэалізацыі на месцах дзяржаўных і агульнанацыянальных праграмаў падтрымкі беларускай мовы, распрацоўваюць і рэалізуюць мясцовыя праграмы і планы падтрымкі беларускай мовы.

Фінасаванне мясцовых праграм і планаў падтрымкі беларускай мовы ажыццяўляецца за кошт мясцовых бюджэтаў, спецыяльных фондаў і сродкаў спонсараў і мецэнатаў.

Арганізацыйную працу па выкананні праграмаў падтрымкі беларускай мовы ў абласцях вядуць упаўнаважаныя па справах беларускай мовы. Усе органы мясцовага кіравання прызначаюць упаўнаважанага ці ўпаўнаважаных па справах беларускай мовы.

### Артыкул 26. **Абавязкі і правы ўпаўнаважаных па справах беларускай мовы ў органах мясцовага кіравання Рэспублікі Беларусь па забеспячэнні дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь**

Упаўнаважаныя па справах беларускай мовы ў органах мясцовага кіравання Рэспублікі Беларусь абавязаны:

- арганізоўваць рэалізацыю на месцах дзяржаўных і агульнанацыянальных праграмаў падтрымкі беларускай мовы;
- распрацоўваць і рэалізоўваць мясцовыя праграмы і планы падтрымкі беларускай мовы;
- патрабаваць ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, таварыстваў, фірмаў і іншых суб'ектаў гаспадарання, а таксама ад усіх юрыдычных суб'ектаў права Рэспублікі Беларусь выканання гэтага Закона, Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь, палажэнняў дзяржаўных, агульнанацыянальных і мясцовых праграмаў падтрымкі беларускай мовы.

Упаўнаважаныя па справах беларускай мовы ў органах мясцовага кіравання Рэспублікі Беларусь маюць права:

- кантраляваць выкананне гэтага Закона, Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь, дзяржаўных, агульнанацыянальных і мясцовых праграмаў падтрымкі беларускай мовы аддзеламі мясцовых органаў улады, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, таварыствамі, фірмамі і іншымі суб'ектамі гаспадарання, а таксама ўсімі юрыдычнымі суб'ектамі права Рэспублікі Беларусь;
- прадстаўляць да прыцягнення да адказнасці кіраўнікоў аддзелаў мясцовых органаў улады, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый, таварыстваў, фірмаў і іншых суб'ектаў гаспадарання, а таксама ад ўсіх юрыдычных суб'ектаў права Рэспублікі Беларусь у рамках заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

### Артыкул 27. **Дзейнасць прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, таварыстваў, фірмаў і іншых суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь па забеспячэнні дзяржаўнай падтрымкі беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь**

Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, таварыствы, фірмы і іншыя суб'екты гаспадарання Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць падтрымку беларускай мовы падчас сваёй паўсядзённай дзейнасці, а таксама шляхам удзелу ў рэалізацыі на месцах дзяржаўных і агульнанацыянальных праграмаў падтрымкі беларускай мовы.

Кіраўніцтва прадпрыемстваў, установаў, арганізацый, таварыстваў, фірм і іншых суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь прызначае супрацоўнікаў, адказных за выкананне праграмаў падтрымкі беларускай мовы ў рамках правоў, нададзеных ім гэтым законам.

Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, таварыствы, фірмы і іншыя суб'екты гаспадарання Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць маркіроўку сваіх тавараў на беларускай і пры неабходнасці на іншых мовах. Першы асобнік усіх тэхнічных дакументаў на тавары (тэхнічнае апісанне, інструкцыя па эксплуатацыі, гарантыйныя талоны і інш.) выконваюцца на беларускай мове.

Тэхналагічнае абсталяванне, выпушчанае ў Беларусі і завезенае з замежных краін, забяспечваецца дакументацыяй на беларускай мове.

Банкі і бухгалтэрыі прадпрыемстваў забяспечваюць права грамадзяніна атрымліваць паўнавартаснае абслугоўванне на беларускай мове, карыстацца беларускамоўнымі версіямі любых дакументаў. Для гэтага ў краіне распрацоўваецца поўны камплект банкаўскай і бухгалтарскай дакументацыі на беларускай мове.

### Артыкул 28. **Дзейнасць палітычных партый і грамадскіх аб'яднання Рэспублікі Беларусь па падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь**

Грамадскія аб'яднанні нацыянальных меншасцяў Рэспублікі Беларусь арганізуюць дзейнасць на нацыянальных мовах або на нацыянальных і беларускай мовах.

## 5. ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПАДТРЫМЦЫ І АБАРОНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

### Артыкул 29. **Правы грамадзян Рэспублікі Беларусь па карыстанні беларускай мовай**

Рэспубліка Беларусь усімі неабходнымі сродкамі забяспечвае права грамадзян свабодна карыстацца беларускай мовай ва ўсіх сферах грамадскага жыцця на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі краіны мае права карыстацца беларускай мовай ў любым выпадку, у любым месцы, у любы час.

Кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь дастаткова ведаць толькі беларускую мову, каб пачувацца і быць паўнапраўным, паўнавартасным і годным суб'ектам беларускага грамадства.

Кожная асоба ў Рэспубліцы Беларусь мае права на атрыманне любых дакументаў, а таксама на ажыццяўленне на яе просьбу прадугледжаных заканадаўствам дзеянняў і праўядзенне ў адносінах да яе працэдур на беларускай мове.

Усе дзяржаўныя органы, а таксама іншыя арганізацыі Рэспублікі Беларусь, незалежна ад формы ўласнасці і арганізацыйна-праўнай формы, надзеленыя правам зацвярджаць бланкі, узоры і іншыя формы дакументаў, якія выдаюцца на просьбу грамадзян ці арганізацый Рэспублікі Беларусь альбо іншым чынам прызначаны для выкарыстання грамадзянамі ці арганізацыямі Рэспублікі Беларусь, забяспечваюць права грамадзян на атрыманне любых бланкаў, узораў, іншых форм дакументаў на беларускай мове.

Натарыусы і іншыя ўпаўнаважаныя на ажыццяўленне натарыяльных дзеянняў асобы забяспечваюць асобам, што звярнуліся да іх па ажыццяўленне натарыяльнага дзеяння, права на атрыманне дакумента, што афармляецца пры ажыццяўленні натарыяльнага дзеяння, на беларускай мове. Адмова аформіць натарыяльнае дзеянне па-беларуску са спасылкай на няведанне мовы альбо тэхнічныя акалічнасці не дапускаецца.

Дзяржаўныя органы і іншыя арганізацыі забяспечваюць асобам, што звярнуліся да іх па ажыццяўленне адміністрацыйнай працэдуры, права на атрыманне дакумента, што афармляецца пры ажыццяўленні адміністрацыйнай працэдуры, на беларускай мове. Адмова аформіць адміністрацыйнае дзеянне па-беларуску са спасылкай на няведанне мовы альбо тэхнічныя акалічнасці не дапускаецца.

Кожная асоба ў Рэспубліцы Беларусь мае права атрымаць на свой пісьмовы, вусны, электронны зварот у дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі Рэспублікі Беларусь адпаведна пісьмовы, вусны, электронны адказ на беларускай мове.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на атрыманне адукацыі любога ўзроўню на беларускай мове.

Навучанню на беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права насіць, а таксама надаваць сваім дзецям асабовыя імёны ў адпаведнасці з беларускай іменаслоўнай традыцыяй; ужываць і запісваць свае асабовыя імёны і прозвішчы ў адпаведнасці з беларускай іменаслоўнай традыцыяй.

Адмова дзяржаўнымі органамі альбо службовымі асобамі ў ажыццяўленні дзеянняў, звязаных з напісаннем асабовых імёнаў, прозвішчаў грамадзян, калі грамадзянін патрабуе напісання яго імя (імёнаў), прозвішча ў адпаведнасці з беларускай іменаслоўнай традыцыяй, не дапускаецца.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права атрымліваць інфармацыю пра тавары (работы, паслугі) на беларускай мове.

Прадавец (вытворца, пастаўшчык, прадстаўнік вытворцы, пастаўшчыка альбо прадаўца, выканаўца) абавязаны забяспечыць права грамадзян на атрыманне прадугледжанай заканадаўствам інфармацыі пра тавары (работы, паслугі) на беларускай мове.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія праходзяць вайсковую службу ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, іншых войсках і вайсковых фармаваннях Рэспублікі Беларусь, маюць права карыстацца падчас службы беларускай мовай. Дзяржава ставарае ўмовы для рэалізацыі гэтага права.

Паводле вуснай альбо пісьмовай заявы асобы, у адносінах да якой распачаты крымінальны пераслед альбо ўзбуджана крымінальная справа, распачаты адміністрацыйны працэс - адпаведны крымінальны працэс, крымінальная вытворчасць, адміністрацыйны працэс падлягае вядзенню на беларускай мове.

### Артыкул 30. **Абавязкі грамадзян Рэспублікі Беларусь па падтрымцы і абароне беларускай мовы**

Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь цераз удзел у выбарах і рэферэндумах з'яўляецца суб'ектам дзяржаўнага кіравання і акрамя правоў мае і абавязкі па захаванні, падтрымцы і абароне беларускай мовы.

Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь абавязаны:

- не ставіцца пасіўна да абразлівых і зняважлівых выказванняў на адрас беларускай мовы, іншых парушэнняў гэтага Закона, а звяртацца ў такім выпадку ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы;
- патрабаваць ад дзяржаўных службоўцаў, ад кіраўніцтва і інжынерна-тэхнічнага кіраўніцтва прадпрыемстваў, установаў, арганізацый, таварыстваў, фірмаў і іншых суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь пры выкананні сваіх службовых абавязкаў выконваць патрабаванні гэтага Закона;

Кожная сям'я Рэспублікі Беларусь абавязана забяспечыць, каб дзеці да 16 год авалодалі вуснай і пісьмовай беларускай мовай.

## 6. АДКАЗНАСЦЬ ЗА ПАРУШЭННЕ ГЭТАГА ЗАКОНА

### Артыкул 31. **Адказнасць дзяржаўных структур фізічных і юрыдычных асоб за парушэнне гэтага Закона**

Фізічныя і юрыдычныя асобы, якія парушаюць гэты Закон, нясуць адміністрацыйную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам.

У Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях уносяцца змены і дапаўненні з тым, каб устанавіць адказнасць за наступныя парушэнні заканадаўства аб ахове і выкарыстанні беларускай мовы:

1) парушэнне раўнапраўя беларускай мовы ў дзейнасці рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, установ, прадпрыемстваў і арганізацый, іншых юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў;

2) дзеянне або бяздзеянне, якое прывяло да парушэння права грамадзяніна Беларусі на атрыманне адукацыі на беларускай мове;

3) адсутнасць тэкстаў на беларускай мове, не менш змястоўных за тэксты на іншых мовах, на пячатках, бланках, шыльдах, надпісах у службовых памяшканнях, афіцыйных сайтах у глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, установ, прадпрыемстваў і арганізацый, іншых юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў;

4) парушэнне права грамадзяніна атрымаць інфармацыю пра тавары ці паслугі на беларускай мове, у тым ліку адсутнасць назваў тавараў і паслуг на беларускай мове, адсутнасць тэксту на беларускай мове, не менш змястоўных за тэксты на іншых мовах, на ўпакоўках тавараў, у інструкцыях да тавараў, у апісаннях паслуг, якія прадаюцца / аказваюцца ў Рэспубліцы Беларусь; адсутнасць гукавых інфармацыйных паведамленняў на беларускай мове, не менш змястоўных за паведамленні на іншых мовах, у аб'ектах транспарту, гандлю, сферы паслуг;

5) парушэнне права грамадзяніна атрымаць адказ ці дакумент на беларускай мове ад дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, установ, прадпрыемстваў і арганізацый, іншых юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў;

6) невыкананне пазначанай у гэтым Законе прапорцыі беларускамоўных тэлевізійных і радыёпраграм, прызначаных для публічнага паказу кіна- і відэафільмаў.

7) неўжыванне беларускіх формаў геаграфічных назваў, у тым ліку як першасных пры перадачы на іншыя мовы, акрамя беларускай;

8) адмова грамадзяніну ў праве насіць самому або надаваць сваім дзецям асабовыя імя (імёны) адпаведна беларускім іменаслоўным традыцыям, ужываць і запісваць свае асабовыя імёны і прозвішчы адпаведна беларускім іменаслоўным традыцыям;

9) невыкананне прадпісанняў Дзяржаўнай інспекцыі Дэпартамента беларускай мовы (інспектара Дзяржаўнай інспекцыі Дэпартамента беларускай мовы);

10) усе іншыя парушэнні права грамадзяніна актыўна і пасіўна карыстацца беларускай мовай ў поўным аб'ёме ва ўсіх сферах грамадскага жыцця ў Рэспубліцы Беларусь.

## 7. ПЕРАХОДНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

### Артыкул 32. **Парадак і тэрміны ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона**

Дэпартамент беларускай мовы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўна-грамадская камісія, Сакратарыят і Інспекцыя Дэпартамента беларускай мовы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь ствараюцца ў вызначаным гэтым Законам парадку на працягу 6 месяцаў з дня ўступлення ў сілу гэтага Закона.

Усе дзяржаўныя органы абавязаны на працягу (1 года) з даты ўступлення ў сілу гэтага Закона прывесці свае нарматыўныя праўныя акты ў адпаведнасць з палажэннямі Закона.

На працягу (1 года) з дня ўступлення ў сілу гэтага Закона Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечвае ажыццяўленне перакладу на беларускую мову дзейных заканадаўчых актаў (кодэксы, законы), іншых нарматыўных праўных дакументаў, у першую чаргу датычных сфер адукацыі, культуры, сродкаў масавай інфармацыі, а таксама забяспечвае ажыццяўленне перакладу на беларускую мову баявых і агульнавайсковых статутаў, што дзейнічаюць ва Узброеных Сілах і іншых сілавых і спецыяльных структурах Рэспублікі Беларусь.

# "Абяцаю, што ўсё асілю я…"

## (Успаміны пра першую дарогу да Жэні Янішчыц)

***20.XI.1948 года нарадзілася Яўгенія Янішчыц. Мой аповед пра наведванне радзімы Я.І.Я. летам 1965 г."Абяцаю, што ўсё асілю я..."***

У канцы лета 1965 года закончылася мая журналісцкая практыка ў газеце 120-й гвардзейскай Рагачоўскай дывізіі ва Уруччы. Узгадаю, што сяржант гэтай дывізіі ў жніўні 1963 года стаў у Львове курсантам факультэта журналістыкі Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ. Яшчэ вясной 1965 года ўдалося выпрасіцца на стажыроўку ў "родную" мне дывізію, а па-праўдзе - насыціцца радзімай.

У Львоў вырашыў вяртацца праз Баранавічы, каб потым на патрэбнай развілцы накіравацца ў бок Пінска, а на Ясельдзе знайсці Жэню Янішчыц. Зацікавілі першыя публікацыі яе вершаў у рэспубліканскім друку, захацелася ўбачыць гэтага незвычайнага самародка.

Як гэта ўсё адбывалася больш як паўсотні гадоў таму, расшыфроўваю зярняткі радкоў з курсанцкай "захаляўнай" кніжыцы.

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

У Баранавічах - непаразуменне. На галоўнай станцыі - Палескай - цягнік не спыніўся. Завезлі на "Цэнтральную". Адтуль аўтобусам вярнуўся назад. За Баранавічамі сеў на грузавічок і паехаў да Ляхавіч. Калі праязджаў Шчару, то па абодва бакі было добра бачна, як чарнеюць байніцамі доты. Хлопец-шафёр гаворыць, што тут у часы Першай вайны тры гады фронт стаяў:

- Па ўсёй Шчары - такія германскія бункеры!

Шафёр працаваў у леспрамгасе, і калі пілавалі ствалы дрэў, дык піла часценька ўядалася то ў калючы дрот, які завяз у камлі, а то ў асколкі…

Горад Ляхавічы стаіць на рацэ Ведзьма. Бачу, што гэта проста ручаіна з гнілымі берагамі.

- Малая то малая, - прыкмячае кіровец, - а летась гэтая Ведзьма чалавека ўтапіла…

На маёй зацяглай дарозе вёска Свяціца - апошняя з населеных пунктаў па дарозе ад Ляхавіч да Ліпска. Мяне зацікавіла тая Свяціца вось чаму. У Львоўскім музеі ўкраінскага мастацтва паказалі Біблію Скарыны, мноства беларускіх старадрукаў, якія набыў у свой час Іларыён Свянціцкі, стварыўшы тым самым "Беларускі аддзел". Распавялі мне пра такі подзвіг вучонага яго дачка Вера Іларыёнаўна, удава Анісся Мацвееўна.

Першапачатковае прозвішча яго - Свяціцкі. Бацька Сямён Свяціцкі служыў святаром. І была згадка, што продкі яго - з ваколіц Выганаўскага возера, якое мела ў XIX ст. назву Свяціца. А тут мне напатколася вёска Свяціца - даўняе ўладанне Радзівілаў.

У Ліпску мяне высадзілі. Да Залужжа - 4 км. Прайшоў спакойна. Мне параілі пазней ісці ў Тухавічы, а пасля кіравацца да 10-га шлюза. Сем кіламетраў да Тухавіч ішоў па лесе. У вёсцы дазволілі пераначаваць на гарышчы. Развітаўся з гаспадыняй хаты і маці дзетак Зінай Пацукевіч. Пачалася новая дарога.

### ДЗЕНЬ ДРУГІ

І вось я сяджу ў рыбацкай хібары. Хлопчык пакарміў мяне. Мы пакупаліся ў Агінскім канале. Маторная лодка павязе мяне бліжэй да вечара. Прыйшоў час гатаваць перакус. Я начысціў бульбы. "А яшчэ будзе суп з гарохам", - кажа мой кармілец.

Маторкай я праехаў 10 км. Далей канал перасох. А да Целяханаў, мне сказалі, дабірацца ажно 12 вёрст. Рушыў у патрэбным кірунку. Дзесьці ў лесе заўважыў вышку. Агледзеў з яе вышыні ўсю мясцовасць. Не так далёка прыкмеціў будыніны. Рукзак скрухвае плечы. Не дапамагае і процівага яму - "Спідола".

Аказваецца, першай вёскай стала перада мной Вулька-Целяханская. Побач - возера. Заначаваў у добрых людзей. Сытна пачаставалі. Адпачываў у ложку. Гаспадары заможныя. Паснедаўшы, адправіўся ў дарогу.

### ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

І вось я сяджу каля ліпы ў Целяханах. Сто вёрст ад Баранавіч - гэта калі напрасткі… Чакаю папутку. З малодшым сяржантам-міліцыянтам даехаў да Лагішына. Далей ён ехаць не заахвоціўся - натросся ў кузаве. А я на спыненай ім машыне даязджаю да Ясельды. Адпраўляюся ў бок Парэчча, на землі Агінскіх-Скірмунтаў. Вёска цікавая, але мне сказалі, што Жэню трэба шукаць у Рудцы, за пяць кіламетраў адсюль…



Прышлося мне пешкі вяртацца назад. Па дарозе сустрэўся з аўтобусам, у якім, як пазней даведаўся, ехала Жэня з Рудкі ў Парэчча. А ў вёсцы Рудка я знайшоў яе дом, але Жэні там не аказалася: мы размінуліся. Мяне



сустрэла яе мама - лагодная, усмешлівая жанчына. Паказала Жэніны сшыткі. Сяджу, чытаю, перапісваю… Надта ж спадабаўся яе верш "Лівень". Уразіла:

*Я найшчаслівая з самых шчаслівых,*
*Я - у дарозе вечнай…*

Пасля параўнання:

*"Лівень, лівень!*
*Мой добры хлопчык…"*

закранула і такое:

*Сэрца ў грудзях - маленькі гармонік,*
*Крыху дзёрзкі і бескалпотны.*

Дзяўчыне яшчэ і сямнаццаці няма, а творы вельмі "дарослыя". Перапісаў радкі з верша "Пісьмо да настаўніцы":

*Абяцаю, што ўсё асілю я,*
*З непрыкметным не выйду ў свет.*
*Верце мне, Кацярына Васільеўна,*
*Без трывогі і без прыкмет.*

Я паспеў перапісаць у свой сшытак і такія вершы Жэні: "Хутка вернешся", "Раўчукі", "Дарогі"… У апошнім - спадзяванні аўтаркі на будучыню, у якой

*…І зайграюць гармонікам*
*Пасівелыя вёсны.*

Верыць аўтар, што прыйдзе час, калі

*Раптам сэрцам адчую я,*
*Як не згасла каханне.*

А я што РАПТАМ адчуў? Раптам убягае ў хату дзяўчынка. Спытаў спачатку, агаломшаны:

- Жэня?

Адказвае:

- Так!

Знаёмлюся:

- Панізьнік…

Такая жывая, па-добраму смешная дзяўчынка стаяла перада мною. Нават не верылася, што гэта яна, Жэня, можа пісаць такія кранальныя вершы.

Вясёлая! І гаворка вясёлая між намі не спыняецца. Ад Жэні я дазнаўся пра цікавы альманах "Ясельда" і што ў газеце "Полесская правда" за 11 красавіка 1964 года пра яе пісалі як пра маладую паэтэсу, якую любяць "за открытый, восторженный характер". Пацікавіўся, а з якой нагоды пачалося ў Жэні захапленне вершамі? Дазнаўся, што ў школе рыхтаваліся правесці вечар, прысвечаны Якубу Коласу. Ёй прапанавалі прачытаць верш народнага паэта. Падумала: надта ж вялікі, цяжка будзе вывучыць на памяць. Лепш я напішу свой! Так і пачалося…

А потым мы пачалі чытаць па чарзе вершы. І зараз чую яе шчабятлівы голас:

*Прастора і сэрца - насцеж.*
*Іду, нібыта вясна.*
*Людзі, бярыце шчасце:*
*Для вас я яго нясла.*

Дзявочыя вершы было надзвычай прыемна слухаць. А па-сапраўднаму таленавітыя - адчуваць на сэрцы свята. Я быў уражаны такому ўваходжанню ў паэзію. Аж зайздрасць брала ад шчаслівасці яе радкоў.

…Потым - палуднавалі. І на Ясельду! Хадзілі па беразе рэчкі з фотаапаратам і "Спідолай". Гаварылі, пераходзілі кладачку, гаварылі… Мне было вельмі нязвычна, што Жэня называе мяне на "вы". Колькі не ўпрошваў - хоць бы што.

А пад вечар яна мяне праводзіла аж за дзве вёскі. Я ўзлажыў рукзак за спіну, а яна паехала на ровары дадому, у Рудку.

Потым у мяне быў Пінск, а пад вечар наступага дня - Львоў. На адрас вучылішча прыходзілі пісьмы з Ясельды, а потым са Свіслачы. Студэнтка БДУ дзялілася і новымі радасцямі, і гаркотаю ад крыўдных неспадзевак. Адразу пасля прыезду з Рудкі я пастараўся перапісаць вершы Жэні і разам з фотаздымкам, дзе яна кладачку пераходзіць, паслаў у газету "Літаратура і мастацтва". Генадзь Мікалаевіч Бураўкін заахвоціўся яе паэзіяй, і вялікая падборка вершаў Янішчыц была ім падрыхтавана і апублікавана. На жаль, здымак-ілюстрацыя быў без подпісу. Але "кладачку тоненькую" згадвалі пазней у прэсе А. Лойка, Р. Бярозкін… Віктар Гардзей пісаў: "…усмешлівая, шчаслівая дзяўчынка ракрыленай птушкай памкнулася кудысьці ўвысь над вясковымі кладкамі". А я і сёння ўсцешаны як "хросны бацька" той лімаўскай публікацыі.

Перад выпускнымі экзаменамі ў вучылішчы я напісаў верш, Жэні прысвечаны. Львоўскі архіў разам з паўсотняй ненадрукаваных вершаў на дзіва збярогся і Аўгінін верш праз паўстагоддзе выплывае насуперак лістападу…

**А - Я (Аўгінні Янішчыц)**

*Маленькая дзяўчынка з-за ракі!*
*Я рады,*
*што на свеце столькі светласці*
*І ясельдзянскай задумёнай ветласці,*
*І шчырасці - у подыме рукі.*
*І столькі суму, зменлівых трывог,*
*І зманлівых*
*сумленне выпадковасцяў…*
*Асцерагаешся слядоў ад подласцяў?*
*Пякуцца там, дзе выкінуты Бог…*
*Маленькая дзяўчынка з-за ракі!*
*Я рады, што і кладкі робяць хісткімі,*
*Што смех крынічны*
*надзяляюць віскатам,*
*Што ходзяць гасцяваць на Саракі.*
*Што дзесь далёка - не ўсім дайсці-*
*Як Беларусь мацнее Край - Паэзія.*
*Што ёсць і праслаўяншчына -*
*П а л е с с е!*
*І ўсё, што напаткала ты ў жыцці.*
*Я рады, што нам столькі выбіраць*
*І прыбіраць, і нішчыць непатрэбнае…*
*А сэрцайка ўжо б'ецца не пад рэбрамі,*
*Калі яму паходняю палаць.*
*Не мне наказам шчырым паланіцца.*
*Мне б толькі -*
*у спагадзе - пакланіцца:*
*- Усё гэта за плечы перакінь,*
*Маленькая дзяўчынка з-за ракі!*

***3.VI. 1967, г. Львоў.***

***Сяргей ПАНІЗЬНІК.***

*Фота Сяргея Панізьніка.*



***Стаяць у першым шэрагу: Данута Бічэль, Паўліна Мядзёлка, Яўгенія Янішчыц, 03.1969 г.***



***Прага. Я.Янішчыц побач са спеваком Міхалам Забэйдам-Суміцкім, 1972 г.;***

# На патрэбу душы

Творчая вечарына паэта і публіцыста Яўгена Гучка адбылася 13 лістапада ў менскай бібліятэцы імя Ф. Багушэвіча. Лірызм, філасафічнасць і грамадзянскасць адзначаюць асабісты творчы почырк аўтара больш за 10 кніг паэзіі і прозы: "Маё пяцікніжжа", "Сэрцам і думкаю", "Ах, Родчанка!", "Беларус у Магдэбурскім праве", "Формула травы". Я. Гучок - майстар выразных трохрадкоўяў, у якіх закладзены глыбокія філасофскія думкі.



Яўген Сяргеевіч нарадзіўся ў Слуцку 4 лістапада 1940 года ў сям'і будаўнікоў. Яго бацька Сяргей Лук'янавіч Гучок паходзіў з чэхаў, якія ў свой час рознымі шляхамі траплялі на Беларусь. Маці Кацярына Ільінічна Амяльковіч паходзіла з бакавой лініі слуцкіх князёў Алелькавічаў - Амелькавічаў.

Яўген скончыў школу № 9, працаваў у геалагічным атрадзе і на мэблевай фабрыцы. У 1960-1963 гадах ён служыў у войску, а затым вучыўся на філалагічным факультэце БДУ (1963-1968) і ў аспірантуры пры ім. Некаторы час Яўген Сяргеевіч настаўнічаў у школе. Потым у 1971 годзе ён уладкаваўся рэдактарам у выдавецтва "Народная асвета" і 30 гадоў працаваў у ім вядучым рэдактарам. За гэты час праз яго рукі прайшлі дзясяткі падручнікаў па гісторыі, геаграфіі, юрыспрудэнцыі. Адначасова спадар Яўген займаўся ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце.

Вершы на рускай мове ён пачаў пісаць з дзяцінства, працягваў ствараць іх і ў войску. Школа яго была рускамоўнай, пра мінуўшчыну роднага Слуцка настаўнікі ў тыя часы распавядалі мала, але маці чытала вершы Ф. Багушэвіча і М. Багдановіча. Цікавасць да роднай мовы і гісторыі да спадара Яўгена прыйшла пазней праз краязнаўца Рыгора Родчанку, які вадзіў яго па слуцкіх могілках: праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанцкіх, паказваў, дзе пахаваны славутыя землякі, распавядаючы пра іх.

Першая кніга паэта "Белое чудо" выйшла на рускай мове. Падчас запісу праграмы на тэлебачанні спадар Яўген апынуўся сярод беларускамоўных паэтаў і пісьменнікаў.



У той момант ён публічна заявіў, што наступная яго кніга будзе па-беларуску. Кнігі "Блакітныя чмялі", "Паэма дзяцінства", "Сэрцам і думкаю", "Формула травы", "Nekropolis" і іншыя, сапраўды, выйшлі на роднай мове. У адным з вершаў ён прызнаўся, што ў яго сэрцы жыве адна Дама - Паэзія, якой ён не здраджваў ніколі і з якой нават кранаў нябёсы. Пад такім дэвізам ён і ствараў паэтычныя радкі. А найлепшыя ягоныя рыфмы нараджаліся *"паміж Слуцкам залатым і Капылём сярэбраным"*:

*І ўжо лунаю я,*
*быццам несцялесны,*
*Случчына, любоў мая,*
*край ты мой нябесны!*

Скарбы сусветнай літаратуры, паэтычныя вобразы творцаў розных краін увайшлі ў тканіну ягоных вершаў. Шэраг твораў Яўген Сяргеевіч Гучок прысвяціў знакамітым асобам Беларусі: Ларысе Геніюш, Міколе Ермаловічу, Анатолю Беламу.

З 1984 года Яўген Гучок з'яўляецца сябрам Менскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба "Спадчына". За актыўны ўдзел у жыцці клуба, напісанне высокамастацкага верша, прысвечанага выступленню Міколы Ермаловіча ў клубе, Камітэтам Ушанавання Яўген Гучок быў ўзнагароджаны медалём М. Ермаловіча і адпаведным дыпломам (2006) і быў занесены ў Кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь". У свой час Яўген Сяргеевіч удзельнічаў у запачаткаванні стварэння ТБМ імя Ф. Скарыны.

Вершы Яўгена Гучка былі змешчаны ў калектыўных зборніках, часопісах і газетах не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Польшчы, Чэхіі, Злучаных Штатах Амерыкі.

*Як будзеш цвёрда*
*стаяць за Айчыну зямную,*
*Дык мецьмеш мажлівасць*
*Увайсці у яе - Нябесную,* -
пераканаены творца.

На вечарыну прыйшлі студэнты 2 курса Менскага дзяржаўнага лінгва-гуманітарнага каледжа пад кіраўніцтвам выкладчыка Алеся Віктаравіча Чэчата. Студэнты прадэкламавалі вершы "Зямля мне бачыцца цудоўнейшым сталом", "Душа не тлее, а гарыць", якія яны ўпадабалі.

- Мы даўно жадалі сустрэцца з паэтам з філасофскім поглядам на жыццё, абазнаным у гісторыі, літаратуры, мове, - адзначыў А. В. Чэчат.- Да гэтага часта прыцягвалі ўвагу яго вострыя публіцыстычныя артыкулы ў "Народнай волі". Яго пазіцыя і погляды выяўляюць у ім патрыёта нашай Радзімы, многія ягоныя вобразы звязаны са Случчынай. Яго творчасць - як бальзам для душы! - прамовіў выкладчык каледжа.

*На чалавека вучацца таксама*
*А тэрмін навучання -*
*усё жыццё,*
*Іспыт здаюць, іспыт нялёгкі,*
*Да смерці аж, і нат пры ёй,* -
сцвярджае паэт у лірычных радках.

Загадчыца бібліятэкі Наталля Анатольеўна Стрыгельская падзякавала паэту, пажадала яму добрага здароўя на доўгія гады і выпуску новых паэтычных кніг.

У размове за гарбатай слухачоў зацікавілі меркаванні творцы пра лірыку Ясеніна і Цютчава, успаміны пра тое, як малады Жэня Гучок наведваў Іллю Эрэнбурга і раіўся з ім.

Яўген Сяргеевіч з'яўляецца пастаянным чытачом бібліятэкі імя Ф. Багушэвіча, дзе сярод твораў айчыннай і сусветнай літаратуры да яго прыходзяць вобразы, натхненне, а магчыма, прылятаюць і музы.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*

На здымках:
1. Яўген Сяргеевіч Гучок;
2. На паэтычнай вечарыне.

***Навіны Германіі***

## МУС Германіі будзе аплачваць жытло мігрантам, якія захочуць з’ехаць



МУС Германіі запусціла рэкламную кампанію ў берлінскім метро. Уцекачам, якія да 31 снежня 2018 года паведамяць нямецкім уладам аб сваім добраахвотным ад'ездзе на радзіму, будзе кампенсавана гадавая арэнда жылля на новым месцы (на суму да 3000 еўра), выдзелены грошы на будаўніцтва або рамонт жылля, або на абсталяванне.

Гіганцкія білборды са "спецпрапановай" 13 лістапада былі размешчаны на многіх станцыях берлінскага метро, МУС звяртаецца да пасажыраў на на сямі мовах: ангельскай, нямецкай, французскай, арабскай, пушту, фарсі і рускай, - паведамляе Deutsche Welle. На рэкламу было выдаткавана каля 500 тысяч еўра, але колькі мігрантаў скарысталіся бонусам - пакуль невядома.

У МУС Германіі тлумачаць, што мэтавая аўдыторыя рэкламнай кампаніі - замежнікі, якім адмоўлена ў Германіі ў статусе ўцекача. Нямецкія чыноўнікі лічаць, што добраахвотны ад’езд з краіны выгадны абодвум бакам: і самому мігранту, і Германіі. Міграната ў гэтым выпадку не будуць прымусова саджаць у самалёт у суправаджэнні паліцэйскага, а таксама ён атрымае грашовы бонус. Цяпер гэта 1200 еўра, калі мігрант з’едзе яшчэ падчас разгляду сваёй заявы аб наданні прытулку і 800 еўра, калі чалавек пасля адмовы не стаў падаваць апеляцыю і з’язджае на радзіму ў зададзеныя тэрміны. Цяпер да канца 2018 года да гэтых грошай дадасца яшчэ і бонус на аплату жылля ад МУС Германіі.

Што тычыцца выгод, якія атрымлівае нямецкі бюджэт, то чыноўнікі тлумачаць, што адна прымусовая дэпартацыя каштуе нямецкім падаткаплатнікам 1500 еўра. У той жа час, калі мігрант сам і добраахвотна з’язджае з краіны, фінансавыя выдаткі дзяржаўных структур скарачаюцца напалову - у сярэднім да 700 еўра. Да таго ж для высылкі мігрантаў часта даводзіцца наймаць чартарныя рэйсы, а яны абыходзяцца бюджэту значна даражэй, чым звычайны авіяпералёт эканом-класам у адзін канец.

Вопыт Германіі па "добраахвотнай" высылцы бежанцаў не ўнікальны: ад 2016 года паводле такой жа схемы працуюць, да прыкладу, Бельгія і Швецыя.

За першую палову 2018 года з Германіі, паводле ацэнак tagesschau.de, добраахвотна з’ехалі 10 669 чалавек. У той жа час прымусова дэпартавана было 12 261. Аднак гэтая колькасць можа вырасці ў наступным годзе: у лістападзе Бундэстаг зрабіў больш жорсткімі правілы прадстаўлення прытулку ў Германіі і ўвёў дадатковыя праверкі тых, хто яго просіць.

***Deutsche Welle.***

## У Германіі выкрылі змову вайскоўцаў

Федэральнае кіраўніцтва крымінальнай паліцыі Германіі выкрыла змову вайскоўцаў Бундэсвера і элітных салдат Uniter, якія планавалі палітычныя забойствы. Пра гэта паведамляе нямецкае выданне Focus са спасылкай на матэрыялы расследавання.

Адзначаецца, што яны рыхтавалі "Дзень ікс", у які павінны былі забіць "непапулярных палітыкаў". У спісе знаходзіўся кіраўнік фракцыі Левай партыі ў парламенце Германіі Дзітмар Бартч. У групы былі сакрэтныя запасы зброі і паліва.

У змову аказаўся ўблытаны і супрацоўнік вайсковай контрразведкі. Ён паведамляў змоўшчыкам пра ход расследавання, а таксама праператрусы. Выданне паведамляе, што яму выставілі абвінавачванні, а яго справу разгледзяць у судзе Кёльна.

***Focus.***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі “Выдавецкі дом ТБМ”.
Газета падпісана да друку 19.11.2018 г. у 17.00. Замова № 3002.
Аб’ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,03 руб., 3 мес.- 6,09 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.